© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 8 (1763) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 25 ЛЮТАГА 1990 г. ЦАНА 600 зл.


## СУСТРЭЧА З ТЭАТРАМ

Беластоцкі гарадскі аддзел Беларускага таварыства мае ўжо за сабою другую „Сустрэчу з беларускай песняй". Першая адбылася пад канец мінулага года. Выступілі ў ёй хор і салісты беластоцкага аддзела БГКТ, маладзёжны рок-гурт, гурток акардэаністаў.

Другая ж „Сустрэча" мела трошкі іншы характар. Беларускай песняй нас вітаў беларускі тэатр — аматарская тэатральная сцэна. Вядзе тэатр Беластоцкага аддзела нязменна Янка Крупа. Ён, як заўсёды, і рэжысёр, і пастаноўшчык, часта і аўтар, ды не толькі тэкстаў, але і песень, а таксама харэограф. Бо цяжка сабе нават уявіць, каб пастаноўка Янкі Крупы абышлася без беларускіх танцаў: беларускія танцы — гэта Янкава душа, яго маладосць, яго найпершая прафесія, яго талент.

Беларускі тэатр у гарадскім беластоцкім аддзеле БГКТ — з'ява перманентная. Трыццаць гадоў, столькі, колькі звязаны Янка Крупа з БГКТ, тэатр то расцвітае пад яго апекай буйнай сакавітай кветкай; то завядае, калі рэжысёру не хапае на гэта фізічных сіл ці часу. Здаецца, скончыў ужо гэты тэатр сваё існаванне. Разышліся па хатах артысты. Але ж мінае нейкі час, і рэжысёрская Янкава душа не вытрымлівае пусткі ў мастацкай дзейнасці таварыства. І ўсё пачынаецца нанова.

Першай пастаноўкай Янкі Крупы была інсцэнізацыя купалаўскай паэмы „Курган". Поспех быў неспадзяваны. Пазней пастаўлены былі „Агледзіны", „Суседка", „Мараль Наталлі Зотавай", „Лапаць" (паводле „Мікітавага лапця") і іншыя.



*У п'есе — бацькі Паўлінкі, а ў сапраўднасці — Янка Крупа і Антаніна Боўблей.*

Нейкі час Янка прысвяціў сябе працы з вясковымі калектывамі. Дзякуючы яму, у конкурсах беларускіх тэатральных калектываў паявіліся шматлікія фальклорныя пастаноўкі, асновыныя на жывым вясковым матэрыяле сцэнкі, як „вечарынкі", „адведкі", „вяселлі".

І вось зноў, пасля нядоўгага перапынку, вяртаецца Крупа да працы з гуртком Беластоцкага аддзела.

— У наш сумны час трэба было знайсці для людзей нешта вясёлае, жартоўнае. А мяне нязменна прыцягвала да сябе „Паўлінка" Янкі Купалы, — гаворыць Крупа.

Уся „Паўлінка" здалася Янку занадта доўгай, як на наш нецярплівы век. Вырашыў пастравіць толькі адну частку — „Вечар у Крыніцкіх", дадаючы канцоўку з трэцяй часткі.

Так паявілася сцэнка „Паўлінка выходзіць замуж" (а артысты яшчэ дадаюць: „праз вакно"). Відома, і тут, у гэтай „Паўлінцы" багаты народны фальклор — і дэкарацыі, і адзенне, і песні, і танцы. У крупавай „Паўлінцы" танцуюць усе — і маладыя, і старыя. Ды яшчэ як спраўна!



*Пасля заканчэння спектакля публіка горача вітала артыстаў.*

(Працяг на стар. 7)

## АХВЯРЫ ГЕНЕРАЛЬНАГА ВЫРАШЭННЯ

Падчас сустрэч прадстаўнікоў нацыянальных таварыстваў у Міністэрстве культуры і мастацтва ставілася пытанне аб месцы грамадска-культурнага руху нацыянальных меншасцяў у сённяшняй структуры нашай дзяржавы. Дзеля вырашэння гэтай праблемы была ўнесена прапанова сустрэцца з міністрам Аляксандрам Галем, які адказвае за кантакты ўрада з партыямі і арганізацыямі.

І вось нядаўна, 2 лютага 1990 года, адбылася гэта сустрэча ў прысутнасці прадстаўнікоў Міністэрства культуры і мастацтва: віцэ-міністра Стэфана Старчэўскага і саветніка міністра Багумілы Бердыхоўскай. Карыстаючыся гэткай нагодай, дзеячы паасобных таварыстваў стараліся прадставіць міністру А. Галю ўсе клопаты і цяжкасці, якія пагражаюць існаванню арганізаванага грамадска-культурнага руху (ад 1 студзеня г.г. партыям і арганізацыям нельга карыстацца дзяржаўным бюджэтам).

Пасля гадзіны выказванняў гасцей выступіў міністр Аляксандр Галь. Заявіў ён, што ўрад будзе памагаць вырашаць набалелыя нацыянальныя праблемы, і гэтую дэкларацыю трэба трактаваць як сур'ёзны намер, а не як паказуху. Зараз няма асобнай урадавай установы, якая кампактна займалася б справамі нацыянальных меншасцяў. На думку міністра, такую ўстанову стварыць неабходна. Далей сцвердзіў, што фінансавая сітуацыя, у якой апынуліся таварыствы, не вынікае з намераных ліквідатарскіх дзеянняў урада. Таварыствы сталі ахвяраў генеральнага (у асноўным, слушнага) вырашэння, якое не ўлічыла іх спецыфікі і аднесла іх да іх таксама, як да сотень іншых грамадскіх арганізацый.

Міністр Аляксандр Галь спяшаўся на чарговую сустрэчу. Гаспадаром далейшай часткі нарады стаў яго супрацоўнік Мар'ян Пілка. Пасля трохгадзіннай размовы прысутныя дайшлі да згоднага вываду, што трэба выпрацаваць новую палітыку ў адносінах да нацыянальных меншасцяў. Пастаноўлена неадкладна накіраваць у Сейм і Сенат пісьмо з прапановай выключэння нацыянальных таварыстваў з-пад дзеяння закона аб таварыствах (зараз рыхтуецца навела гэтага закона) і паскорыць працы над законам аб нацыянальных меншасцях.

**В. Луба**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ЯК ЗАХОЎВАЦЬ СКАРБЫ ПРЫРОДЫ?

Як маюцца прыродныя комплексы Белавежскай пушчы і іншыя запаведныя тэрыторыі ў Беларусі, ды і не толькі ў ёй? Што пра іх ведаем? Як іх лепш захоўваць? Гэтыя праблемы абмяркоўвалі ў снежні 1989 г. рэспубліканскія вучоныя на навукова-выканаўчай канферэнцыі ў Камянюках (Камянецкі раён), арганізаванай Ведамствам Савета міністраў БССР, Міністэрствам лясной гаспадаркі БССР, Дзяржаўным камітэтам аховы прыроды БССР і Дзяржаўнай запаведна-паляўнічай гаспадаркай „Белавежская пушча", якая была гаспадаром мерапрыемства. У канферэнцыі прымала ўдзел таксама дэлегацыя з Белавежскага нацыянальнага парку (БНП). Два яе прадстаўнікі выступілі з дакладамі. Намеснік дырэктара БНП д-р Чэслаў Аколаў чытаў даклады аб сістэме аховы прыроды ў польскай частцы Белавежскай пушчы, канцэпцыі функцыянальнай зоны „Зялёныя лёгкія Польшчы", ролі БНП у прапагандзе экалагічных ведаў, затым аб жуках — рэліктах першабытных лясоў, знойдзеных на тэрыторыі БНП. Інж. Анджэй Антчак у сваю чаргу пазнаёміў слухачоў з фактарамі, абумоўліваючымі рэалізаванне мэтаў і функцый нацыянальнага парку.

На канферэнцыі было прачытана больш ста дакладаў. Праца вялася ў некалькіх секцыях: арганізацыі запаведных прац, флоры, энтамалагічнай, тэрыялагічнай, арніталагічнай і прыродных ачагоў хвароб. Старшынёй канферэнцыі быў заслужаны лесавод БССР, дырэктар ДЗПГ „Белавежская пушча" Сяргей Балюк.

**Пётр Байко**

# СУСТРЭЧА З ТЭАТРАМ

(Працяг са стар. 1)

Другая частка вечара гэтай жа „Сустрэчы з беларускай песняй" была запоўнена таксама купалаўскай сцэнкай. Паводле „Прымакоў" калектыў паставіў спектакль „Ажаніся-весяліся". І тут жарты, як з рукава, сыпаліся са сцэны.

Вельмі натуральна, зусім свойска, як у нармальнай вясковай хаце, захоўваліся артысты. Уся зала клалася ад смеху, калі адзін з „прымакоў" — а ў сапраўднасці Віталій Байгус — прачнуўся пасля саліднай п'янкі ў чужой хаце. Віталій Байгус — гэта сапраўдны талент, прыроджаны акцёр-комік.

Добра выконвалі свае ролі і сам Янка Крупа, і яго сябры, як старэйшыя, так і маладыя — дзяўчаткі Іра Азябла і Тамара Баран, а таксама Алесь Карпюк. Быў гэта не толькі тэатр, як сказаў прысутны на вечары госць — сатырык з Мінска Яўген Бароўскі, а сапраўдны ансамбль песні і танца.

Гледачы былі задаволены. Адпачылі, пасмяяліся ўволю, наблізіліся душою да свойскасці, пабывалі гарадскія гледачы ўспамінамі ў роднай бабулінай хаце недзе на беларускай (у Польшчы) вёсцы, пагрэліся, як ля цяпельца, гарачымі колерамі беларускіх вышываных ручнікоў і настольнікаў.

А Янка Крупа са сваім калектывам ужо рыхтуе новую пастаноўку. На варштаце „Старыя" Сакрата Яновіча, а ў планах — „Гарадскія госці" Алеся Барскага.

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара



*Віталій Байгус — „прымак" па няволі, абудзіўшыся, не пазнае сваёй хаты.*



*Сцэнка з п'есы „Паўлінка выходзіць замуж".*

---

У нашу задачу не ўваходзіць аналізаваць навуковыя вынікі канферэнцыі. Гэта, зразумела, павінны зрабіць спецыялісты-лінгвісты. Адзначым толькі, што паасобныя яе рашэнні мелі вельмі радыкальны характар і павінны былі садзейнічаць умацаванню самастойнасці беларускай мовы, ачышчэнню яе ад польскіх і рускіх іншародных наслаенняў. Адной з найбольш кардынальных пастаноў была, напрыклад, рэзалюцыя (прынятая большасцю галасоў) аб мэтазгоднасці пераводу беларускай азбукі з кірыліцы на лацініцу.

Канферэнцыі спадарожнічала правядзенне цэлага шэрагу разнастайных палітычных, грамадскіх і культурных мерапрыемстваў беларускага нацыянальнага характару. Улады з усіх сіл намагаліся пераканаць замежных гасцей у эфектыўнасці і неадваротнасці беларусізацыі, у тым, што ў Савецкай Беларусі адбываецца здзяйсненне вяковай мары беларускага народа — будаўніцтва сапраўднага суверэннага нацыянальнага дома. Даволі дакладнае ўяўленне аб гэтых стараннях улад можна мець на падставе азнаямлення з дакументамі, якія знаходзіліся ў асабістым архіве В. Ластоўскага. Архіў гэты перад ад'ездам на сталае жыццё ў Мінск Ластоўскі перадаў на перахаванне ў Віленскі беларускі музей імя Івана Луцкевіча. Як бы нешта прадчуваў? Таму гэтыя дакументы і ацалелі, а пасля вайны трапілі ў фонды Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва БССР. Даволі красамоўны ўжо сам сухі без каментарыя пералік гэтых дакументаў. Вось ён: запрашэнне на канферэнцыю за подпісам У. Ігнатоўскага, у якім гаварылася: „...выдаткі вашай падарожжы на канферэнцыю і назад Інстытут Беларускай Культуры (ІБК) мае гонар узяць на сябе"; суправаджальнае пісьмо савецкага пасла ў Літве Александроўскага да савецкай пагранічнай службы з просьбай без затрымкі прапусціць усе паперы В. Ластоўскага; запрашэнне на таварыскую вячэру ў дзень адкрыцця канферэнцыі ў чырвонай залі сталовай цэнтральнага рабочага кааператыву; запросіны на канцэрт беларускай песні і музыкі ў клубе імя К. Маркса 19.XI.1926 г. (На канцэрце гэтым адразу пасля выканання „Інтэрнацыянала" аркестр выканаў „беларускую марсельезу" (Ад веку мы спалі...), якую спявалі ўсе прысутныя разам з госцьмі; запрашэнне на банкет, прысвечаны 20-гадоваму юбілею творчай дзейнасці Я. Коласа; запрашэнне на ўрачыстае адкрыццё Другога беларускага дзяржаўнага тэатра ў Віцебску; запрашэнне на пасяджэнне секцыі беларускага мастацтва ІБК; візітныя карткі д-ра Ю. Галомбека (Польшча) і д-ра М. Васмера (Германія); запіскі ад З. Жылуновіча, Я. Коласа, С. Некрашэвіча, якія звярталіся да яго, як у старыя дарэвалюцыйныя часы — „дзядзька Ластоўскі" і інш.

Акадэмічная канферэнцыя з'явілася важнейшай падзеяй палітычнага жыцця БССР. Партыйныя і дзяржаўныя ўстановы аказвалі ўсялякую дапамогу ў яе правядзенні. Згодна з урадавым распараджэннем газета „Савецкая Беларусь" з 16 па 20 лістапада 1926 г. выходзіла ў павялічаным аб'ёме, каб змясціць усе даклады канферэнцыі. На яе старонках былі змешчаны таксама інтэрв'ю з В. Ластоўскім і К. Езавітавым. Першы з іх гаварыў, „што ў яго на вачах паявіліся слёзы радасці пасля таго, што ён убачыў у БССР", другі змясціў у газеце прывітальны верш канферэнцыі. Даволі трапна ахарактарызаваў уражанні замежных гасцей і агульны ўзнёслы настрой, які панаваў на пасяджэннях, Ян Райніс. „Нацыянальнае абуджэнне Беларусі нагэтулькі моцнае, — пісаў ён на старонках латышскай газеты „Сацыял-Дэмакрат", — што засланяе сабой усе іншыя духовыя інтарэсы..., беларусаў ахапіла цудоўная нацыянальная ўзнёсласць".

Візіт у БССР цалкам змяніў некаторыя палітычныя погляды В. Ластоўскага, які з аднаго з галоўных працаўнікаў зменавехаўства ператварыўся ў яго прыхільніка. Не падзяляючы марксісцка-ленінскую ідэалогію, ён прыйшоў да даволі спрэчнага вываду аб магчымасці ўплыву на палітычную лінію кіраўніцтва БССР праз актыўны ўдзел у беларусізацыі і развіцці беларускай культуры. Таму ён не толькі сам вырашыў пераехаць у БССР, але і выступіў з заклікам да ўсіх беларускіх дзеячаў наследаваць яго прыклад. „На помач Інбелкульту ў яго высілках адбудаваць беларускую культуру, — пісаў ён на старонках свайго ковенскага часопіса „Крывіч", — павінны пайсці ўсе нашы культурныя працаўнікі, якія знаходзяцца па-за Менскам. Культура ўсенародны, а не партыйны скарбец". Хутка ён далучыўся да А. Цвікевіча і іншых дзеячаў БНР, якія перабраліся ў БССР раней. Пасля прыезду ў БССР В. Ластоўскі спачатку атрымаў пасаду дырэктара дзяржаўнага музея БССР, а пазней неадменнага сакратара Інбелкульта і Акадэміі навук БССР.

У сярэдзіне 20-х гадоў ідэі зменавехаўства амаль цалкам дамінавалі ў беларускім нацыянальным руху па-за межамі Беларускай ССР. У выніку гэтага два з трох былых старшынь урада БНР разам з вялікай групай сваіх прыхільнікаў пераехалі на навуковую і грамадскую працу ў Савецкую Беларусь, а трэці актыўна ўдзельнічаў у рабоце „Грамады", якая знаходзілася пад кантролем КПЗБ (А. Луцкевіч).

Антысавецкая плынь беларускага нацыянальнага руху пацярпела поўнае паражэнне і да пачатку 30-х гадоў не мела значнага ўплыву на фармаванне беларускай грамадска-палітычнай думкі. Далейшы лёс беларускіх зменавехаўцаў быў, як вядома, надзвычай трагічны. Сталінскага тэрору ніхто з іх не перажыў, але гэта ўжо зусім іншая гісторыя.

*(Працяг будзе)*



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Зорка

## Старонка для дзяцей

## Верабей і мыш

**Беларуская народная казка**

Жылі па суседству верабей і мыш: верабей пад страхою, а мыш у норцы пад падрубаю. Жывіліся тым, што ад гаспадароў перападала. Улетку яшчэ сяк-так — можна на полі ці ў агародзе што-небудзь перахапіць. А зімою хоць плач: на вераб'я гаспадар сіло ставіць, а на мыш — пастку.

Надакучыла ім так жыць, задумалі яны поле капаць, збажыну сеяць.

Ускапалі ладную дзялянку.

— Ну, што будзем сеяць? — пытаецца верабей.

— А тое, што людзі сеюць, — адказвае мыш.

Назбіралі насення ды пасеялі пшаніцу.

— Што тваё будзе, — пытаецца мыш у вераб'я, — карэнне ці вяршкі?

— Сам не ведаю.

— Бяры карэнне, — параіла мыш.

— Добра, няхай будзе карэнне.

Прыйшло лета. Паспела пшаніца. Мыш зжала каласы, а вераб'ю пакінула салому. Перанесла мыш каласы ў сваю нару, змалаціла, змалола, напякла пірагоў ды есць сабе зімою. Добра жыве, бяды не мае.

(Працяг на стар. 10)



Каляднікі з дома культуры „Сток" на Сонечным Стоку ў Беластоку. Фота Я. Чэрнякевіч.

## Вершы Віктара Шведа

### ТРЫЦЦАЦІГАДОВАЯ ВАЙНА

— Маем гісторыі гадзіну.
Дык, даражэнькі Лёва,
Ты аб вайне вось раскажы нам,
Той трыццацігадовай.

— Апроч, што трыццаць год
трывала,
Не ведаю нічога.
— Дык, гэта ж безумоўна мала!
— Па-мойму, вельмі многа.

### НЕ ДАРАСЛА ДА АНЕКДОТА

— Сёння дасканалы анекдот
Чула я, каханая матуля.
Мне ад смеху аж баліць жывот,
Калі паўтарыў яго дзядуля.

— Дык цяпер мне можаш
расказаць,
Калі памятаеш, дарагая.
— Не магу, матуля, паўтараць,
На яго ж яшчэ я замалая.

### НЕ ВЫБУХНЕ ПУСТЫ КАЦЁЛ

— Адурманіла трава,
А мо палявая кветень.
Забалела галава,
І, здаецца, што ўзарвецца.

— Не капрызнічай, асёл,
Гавары аб іншым нечым.
Не ўзрываецца кацёл,
Калі ў ім адна пустэча.

### КАРЛІК

— Мой маленечкі сыночак,
Што праходзіш пад сталом.
Кім жа ты ў жыцці быць
хочаш?
Сын на гэта: — Прадаўцом.
— Дык цябе ж не будзе. Слаўка,
З-за прылавачка відаць.
— Дык я, татка, з-пад
прылаўка
Буду толькі прадаваць.

### ГАНУЛЯ І ЗЯЗЮЛЯ

У лесе з бацькамі вясновай
парою
Гуляла малая Ганула.
І здзіўлена раптам пачула
такое:
Прыгожа кукуе зязюля.

І слухае, слухае птушку малая
Зрок водзіць па дрэвах наўкола
— Вось нейкая птушка
тут падрабляе
Гадзінніка нашага голас!

### НЕ РАНА

Уселіся госці
За сталом вялікім.
Маці кліча Косцю:
— Хадзі, сынок, выпі.

— Не рана дзіцяці
Гарэлку даеце?
— Не, — сказала маці, —
Усе ўжо ў камплекце.

### ТРЭБА РАЗБОРЛІВА ПІСАЦЬ

Вучань, набраўшыся адвагі,
Настаўніка пытае так:
— У сшытку вашыя заўвагі
Не прачытаю ніяк.

— Даю табе там указанне,
Ты непапраўны Яраслаў,
Рашаючы свае заданні
Каб больш разборліва пісаў.

„Ніва"
25.II.1990 г.

У няясным прыцемку кутка нешта варухнулася. Але я ад чытання не адарвалася. Калі вакол цябе ўтульная цішыня, блакітны абажур пасылае святло настольнай лямпы на старонкі кнігі, а ты захапілася паходам вучняў па Белавежскай пушчы — іншае не цікавіць.

Загадкавае варушэнне паўтарылася. „Здалося" — падумала я, падняла ўгору рукі, выпрасталася на крэсле, салодка пацягнулася. І на малінавым полі дарожкі разгледзела шэры пульсуючы камячок, пушысты з чорнай бліскуценькай. Камячок падкаціўся да майго століка, і я спалохана крыкнула брату:

— Алесь, мышаня!

Алесь чытаў у суседнім пакоі.

— Дзе? — азваўся ён. — Зараз заб'ю!

Мышы ў нашых дамах з'яўляюцца кожную восень. Мама кажа, што яны палявыя і ўцякаюць ад марозаў. Шчыра кажучы, калі немагчыма з героямі кнігі паехаць у Белавежскую пушчу і ўбачыць жывога зубра ці вавёрку, хацелася паназіраць хоць бы за гэтым жывым камячком. А я толькі моўчкі сачыла, як з пантопляй у руцэ Алесь на дыбачках крадзецца да мышаняці, замахнуўся, ударыў па ім, але міма. На маё здзіўленне мышаня ніколечкі не спалохалася, спакойна падкацілася да Алесевых ног.

— Яно ж прыручанае! — узрадавалася я і, саскочыўшы з крэсла, нахілілася над мышанём. У мяне неяк само сабой выказалася ласкавае, зваротнае:

— Чы-чы-чы! Чы-чы-чы! Ты, мабыць, галоднае. Павартуй яго, Алеська, а я прынясу яму есці.

І пабегла на кухню.

Калі я прынесла Чы-чы-чы малака і кавалачак булкі, Алесь працягнуўшы перад са-




бой самкнутыя рукі, ляжаў на падлозе. А ў гэтай агароджы спакойна сядзела Чы-чы-чы і абнюхвала яго далоні. Я прыклеіла да свайго пальца кавалачак булкі і паднесла мышаняці.

— Есць! — здзівіўся Алесь. — Зірні, Наташа! От здорава!

Мышаня цягнулася пыскай да мякіша, хуценька-хуценька варушыла пушыстымі вусамі-шчочкамі. Раптам яно драпанула мяне за палец.

— Яно мне скуру пракусіць!

Але палец быў цэлы, і я асцярожна падсунула накрыўку з малаком. Чы-чы-чы ўткнулася пыскай у малако і пачала піць, а мы, не адрываючыся, сачылі за кожным яго рухам і адчувалі сябе сапраўднымі даследчыкамі.

— Хай мышаня ў нас жыве, — падняўся Алесь. — Нічога ж не здарыцца.

Алесь, вядома, меў на ўвазе, што заўсёды гаварылася пра шкоднасць мышэй і што тата і мама могуць насварыцца на нас. Я таксама падумала аб гэтым. Але Чы-чы-чы было такім даверлівым, такім пушыстым і маленькім, што ні пра якую хваробу не хацелася думаць. Я ўздыхнула і сказала:

— Ужо здарылася.

— Што? — занепакоіўся Алесь.

— Мы яго хацелі забіць, а цяпер кормім. Чаму так раптам?

— Таму, што яно нібы прыручанае, — сказаў Алесь і пагладзіў пальцам спінку мышаняці.

— А можа, яно такое малое, што нават нас не спалохалася, — сказала я і таксама пагладзіла спінку мышаняці. Мы ж ніколі яго так блізка не бачылі! Мабыць, яно засталося без мамы і ўпершыню выбралася з норкі.

Чы-чы-чы паела хлеба, папіла малака, потым села на заднія лапкі, з пераднімі выцерла пыску і пакацілася прэч. Алесь далонямі перагарадзіў мышаняці дарогу. Чы-чы-чы спакойна пе-

(Працяг на стар. 10)

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




(Працяг са стар. 9)

ралезла цераз далоні і знікла пад атаманкай.

— Мы навучым яго фокусы рабіць, — узрадаваўся Алесь. — Вось будзе сенсацыя ў класе! Свой школьны цырк!

Калі тата і мама вярнуліся з тэатра, мы расказалі пра нашае Чы-чы-чы і папрасілі дазволу застацца яму ў нас.

— А вы рукі мылі пасля вашага Чы-чы? — спалохалася мама.

— Ты, Наташа, рукі мыла? — прашаптаў мне Алесь.

— А ты? — спытала я брата.

Разам з татам і мамай мы сядзелі за сталом, пілі чай і ўсё пазіралі на свае рукі. Можа, надта позна іх вымылі?

— Калі я быў малым, — сказаў тата, — у нас у вёсцы было многа мышэй. На кухні стаяла шафа, дзе ляжаў хлеб. У шафе была дзірка. Яе прагрызлі мышы. Наш кот быў стары-стары і ўжо нічога не лавіў. Адным ранкам ля хлеба маці знайшла новонароджаных мышанят, зусім голых, сляпых. Падобных на ружовыя фасолінкі. Штук восем.

— І ніхто не захварэў? — спытаў Алесь.

— Тады людзі яшчэ не ведалі, што мышы такія небяспечныя, — адказала маці. — Яны хварэлі і не здагадваліся ад чаго.

— Кошкі іх ловяць, — не здалася я, — і зусім не хварэюць.

— У кошак да мышыных хвароб неўспрымальнасць, — заявіла маці. — Імунітэт. А ў нас яго няма.

Усё ж такі мы ўпрасілі маму, і яна дазволіла Чы-чы-чы прыходзіць да нас. Мы абяцалі пасля яго кожнага прыходу па паўгадзіны мыць рукі ў гарачай вадзе з мылам і содай.

Але наш шэры камячок не прыйшоў да нас ні ранкам наступнага дня, ні вечарам. Не паказаўся і на ўсе астатнія дні. Можа, папаўся ў пастку, з'еў атруту. Можа, дзе заблудзіўся або яго злавіла кошка. А можа, у суседняй кватэры забілі пантоплляй. Хіба даведаешся, куды ён знік?

Вечарам блакітны абажур пасылае святло настольнай лямпы на старонкі падручніка. Мы з братам рыхтуем урокі, пішам, чытаем. Не-не, я зірну ў куток, дзе ў няясным змроку канчаецца дарожка. Раптам здасца, што там варушыцца шэры камячок.

— Алесь! — шапчу я. — Чы-чы-чы!

— Хлусіш! — адказвае Алесь.

**В. Гарбук**




— Пеця, што з тваёю шапкай? — пытаецца маці.

— Хлопцы ёю ў футбол гулялі!

— А дзе ты быў?

— На варотах стаяў.

* ✻ *

— Мяне пакусаў твой сабака. Я патрабую кампенсацыі!

— Калі ласка. Я патрымаю сабаку, а ты кусайся.

* ✻ *

— Ты ведаеш, я купіў матацыкл. Хачу паездзіць па свеце.

— Па якім: па гэтым ці па тым?

* ✻ *

— Чаму вы заяўляеце аб крадзяжы з такім спазненнем? Вы ж гаворыце, што адразу звярнулі ўвагу: усё ў доме дагары нагамі.

— Ды... Спачатку я вырашыла, што гэта мой сын шукаў чыстую кашулю.

* ✻ *

— Ты сам напісаў гэты верш?

— Кожны радок.

— Прыемна мне пазнаёміцца з самім Міцкевічам.

* ✻ *

— Ало! Паліцыя? Прыязджайце хутчэй! Кот грозіць, што мяне з'есць!

— Што за жарты? За такія жарты можна паплаціцца, малады чалавек!

— Які малады чалавек? Я папугай Лора!

* ✻ *

— Ці ты, Пеценька, добра захоўваўся ў школе?

— Так, мамачка. Як жа ж я мог дрэнна захоўвацца, калі я тры гадзіны ў кутку прастаяў!



*— Я буду мыць, ты выціраць, а Пятрок будзе чарапкі збіраць.*

* ✻ *

— Ты прызнаўся ў хаце, што атрымаў двойку?

— Так.

— І што?

— Нічога. Бацькоў у хаце не было.

# Вучнёўская творчасць

*Дарагая „Зорка“. Пасылаю Табе свой верш. Буду рада, калі ён Табе спадабаецца. Зычу ў Новым 1990 годзе добрага здароўя і выдатных поспехаў у працы.*

### МАЯ РАДЗІМА

Люблю я жураваў,
Што восенню ляцяць у вырай.
І ціхі шопат лістоў
Даўно ўжо пажоўклай івы.
Люблю зімою —
Першы я сняжок.
Вясною —
Рэк шырокія разлівы.
Люблю я летам —
У жыце васілёк
І летні ветрык вельмі гаварлівы.
Люблю я слухаць спевы салаўя.
І хвалі сінія люблю я.
Чаму я гэта ўсё люблю?
Таму, што гэта вось
Радзімаю заву я.

**Таня Фамянкова.**
**вуч. 6 кл.**
**г. Мінск.**




— ✻ —

Польшча, Магдалена Пятроўская, 13 гадоў, вёска Лубін-Касцельны, 46 а, пошта 17-121 Лубін Касцельны, Беластоцкае ваяводства.

— ✻ —

СССР, 279200, Молдавия, г. Бельцы, ул. К. Маркса, 7/10. Басюк Оксана (6 клас).

— ✻ —

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Пульного, 14, кв. 6. Бурлакову Вове (3 клас).

— ✻ —

БССР, 225710, г. Пінск, вул. Кірава, 2/58. Наташы (5 клас).

— ✻ —

БССР, 225710, г. Брэст, вул. Кулікова, 24, кв. 37. Эдзіку Гайдуку (5 клас).

— ✻ —

БССР, 225140, Брэсцкая вобласць, г. Пружаны, вул. Вішнявецкага, 8. Зенчык Алене (14 гадоў).






Спалучы лічбы ад 1 да 57. Што выйшла? Размалюй карцінку каляровымі алоўкамі. Напішы ў „Зорку“, што ты ведаеш аб тым, што бачыш на малюнку.

# Верабей і мыш

(Працяг са стар. 9)

Верабей пакаштаваў салому — нясмачная!

Давялося яму на сметніку галоднаму зімаваць.

Прыйшла вясна. Мыш вылезла з нары, убачыла вераб'я і пытаецца:

— Ну як, сусед, зімавалася?

— Дрэнна, — кажа верабей, — ледзьве выжыў: нясмачная наша пшаніца ўдалася.

— То давай будзем сёлета моркву садзіць: яна салодкая. Усе зайцы яе любяць.

— Давай, калі не хлусіш! — падскочыў верабей ад радасці.

Ускапалі свежае поле і пасеялі моркву.

— Што тваё будзе, — пытаецца мыш у вераб'я, — карэнне ці вяршкі?

— Вяршкі! — кажа верабей. — Баюся браць карэнне; я ўжо на пшаніцы апёкся.

— Добра, бяры вяршкі.

Вырасла морква. Верабей узяў вяршкі, а мыш — карэнне. Занесла яна сваё карэнне ў нару і есць сабе памаленьку.

А верабей пакаштаваў вяршкі, аж яны не лепшыя за пшанічнае карэнне...

Надзьмуўся верабей, ледзь не плача.

Ляціць варона. Убачыла вераб'я.

— Чаго ты, верабей, надзьмуўся? — пытаецца.

Расказаў ёй верабей, як яны з мышшу сеялі пшаніцу і моркву.

Выслухала яго варона і зарагатала на ўсё горла:

— Дурны ты, верабей! Мыш цябе падманула... У пшаніцы смачныя вяршкі, а ў морквы — карэнне.

Узлаваўся верабей, прыскакаў да мышы:

— Ах, нягодніца, ах, ашуканка! Я з табою біцца буду.

— Ну што ж, — кажа мыш, — давай біцца!

Запрасіў верабей сабе ў хаўруснікі драздоў і шпакоў, а мыш — кратоў і пацукоў.

Пачалі біцца. Доўга біліся, а ніхто нікога не пабіў.

Прыйшлося вераб'ю адступіць са сваім войскам на сметнік.

Убачыла гэта варона:

— Га, га, верабей, слабых ты хаўруснікаў сабраў. Калі б ты паклікаў марскога сокала, той адразу б усіх і мышэй, і кратоў, і пацукоў паглытаў.

Паляцеў верабей на мора, паклікаў марскога сокала.

Прыляцеў сокал і ўсё мышынае войска паглытаў. Адна толькі мыш, тая, што вераб'я падманула, засталася: у нару схавалася.

Настаў вечар. Сокал паляцеў на ржышча начаваць. Сеў на камені ды моцна заснуў. А верабей пашчабятаў ад радасці і палез пад страху.

Тым часам хітрая мыш пабегла ў поле да начлежнікаў, ухапіла галавешку і падпаліла ржышча, дзе спаў сокал. Узняўся агонь і асмаліў сокалу крылы.

Прачнуўся сокал, а ў яго крылаў няма... Пабедаваў ён ды падаўся пехатою да мора. Убачыў яго на дарозе паляўнічы, хацеў застрэліць, а сокал і кажа:

— Не страляй мяне, добры чалавек. Лепш вазьмі з сабою: як адрастуць у мяне крылы, я табе добра аддзякую.

Узяў паляўнічы сокала. Цэлы год карміў і даглядаў. Адраслі ў сокала крылы, ён і кажа:

— А цяпер бяры мяне на паляванне. Я табе зайцоў і птушак буду лавіць.

З таго часу сокал і служыць памочнікам у паляўнічага.


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Зорка“.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

